# МЕНСКАЯ ГРАМАДА

Палітычна-грамадзкая газэта

№ 1 (7)
травень 1995 г.




## Выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь
вызначаць наш лёс на гады

**Што задумаўся, браток! Галасуй за дэмакратычны блок!**

Каб не браць граху на душу, так рабіць я мушу:






## Бойся "незалежных" кандыдатаў!

Незалежнай мае быць дзяржава, а «незалежнасць» ад палітыкі дэпутата-прафесіянала — гэта авантурны міф, падман, гульня з даверлівым выбаршчыкам. Пад выглядам такіх «незалежнікаў» у дэпутаты пішчом лезуць стаўленнікі наменклатуры, «грашовыя мяшкі», розныя авантурысты.

У краіне ёсць дзве палітычныя сілы: «партыя улады» (гэта прызначаная Лукашэнкам «вертыкаль», розныя дырэктары ды адміністратары). Гэта былыя «людзі Кебіча», а цяпер — «людзі Лукашэнкі». Ці не так? І ёсць апазіцыя, БНФ, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада і інш. дэмакратычныя сілы. Яны, аб'яднаўшыся, вылучылі сваіх кандыдатаў ва ўсе 260 акруг краіны. Альтэрнатывы гэтым дзвюм сілам няма.

Першыя, каб атрымаць піраву перамогу на выбарах і пратрымацца ў сваіх «цёплых» крэслах яшчэ некалькі год, нахабна захапілі друк, радыё, тэлебачанне, гатовы выкарыстаць для падману і подкупу выбаршчыкаў велізарныя тэхнічныя і фінансавыя сродкі. На запас падрыхтаваны кандыдатуры т. зв. «незалежных» кандыдатаў. А калі народ не падтрымае ні саму наменклатуру, ні іх «падсадных качак», «незалежных» кандыдатаў, то будзе зроблена спроба сарваць выбары ўвогуле. Гэта шмат чым пацвярджаецца.

Апазіцыі, дэмаккратычным партыям няма за што чырванець перад народам — у самых неспрыяльных умовах падымаліся маштабныя ініцыятывы: Чарнобыль, Курапаты, Трасцянец, барацьба з усяўладствам КПБ, за датэрміновыя перавыбары Вярхоўнага Савета (яшчэ ў 1992 г.), патрабаванне прыняць дзейсныя законы, накіраваныя на барацьбу са злачыннасцю, карупцыяй, «прыхватызацыяй», выступала, прапаноўваючы адпаведныя праекты законаў, за правядзенне сапраўдных рэформаў, адстойвала сацыяльную справядлівасць.

*(працяг на стар. 3)*

## Галасуем за новую Беларусь!

Нашы суседзі здолелі за лічаныя гады адбудаваць новую Польшчу, новую Чэхію, новую Літву... Па-рознаму, але ў цэлым пастулальна рэфармуюцца Украіна і Расія. Беларусь, якая «пры Кебічы» знаходзілася ў здранцвенні, стане глыбокага крызісу, цяпер выраджаецца і падае да мяжы самаразбурэння. Гэта вынік трагічнай памылкі выбараў лета 1994 года.

Якое ж выйсце? Хто яго прапануе?

Дзе шанц? Яго даюць выбары новага складу Вярхоўнага Савета краіны, якія пачынаюцца 14 мая г. г. Яго прапануюць дэмакратычныя сілы, Беларускі народны фронт, сацыял-дэмакраты і інш. Выйсце — у правядзенні новай дзяржаўнай палітыкі праз адстаўку канстытуцыйным шляхам збанкрутаваўшай прэзідэнцкай наменклатурнай каманды. Новая палітыка, і як вынік — новая Беларусь.

Што ж гэта будзе за краіна? Новая Беларусь — гэта нацыянальная, прававая дзяржава, гэта грамадства роўных магчымасцей, але рознага ў залежнасці ад «задзейнічаных» розуму і працы ўзроўню жыцця. Гэта краіна, у якой будзе забяспечана дастойнае існаванне звыш 2 мільёнаў пенсіянераў, інвалідаў і дадзены перспектыўныя «стартавыя» магчымасці кожнаму маладому чалавеку. Гэта інтэграваны ў Еўрапейскую эканоміку (а не толькі ў тэхналагічна адсталую і палітычна нестабільную, ненадзейную як эканамічны партнер, Расію) самабытны вытворчы механізм. Гэта супольнасць людзей, якія жывуць у адзінай сацыяльна-культурнай прасторы, дыхаюць паветрам сваёй адзінай і непаўторнай Бацькаўшчыны. Гэта глыбокапаважаны суседзямі і сусветнай супольнасцю суб'ект міжнароднага права.

У новай Беларусі не будзе гэтулькі прагнага чынавенства, хапуг, карупцыянераў і злодзеяў — бо Закон будзе навостраны, як лязо брытвы. Не будзе росту злачыннасці — бо межы, з-за якіх яна плыве бруднымі ручаінамі,— будуць зачынены для непажаданых «гасцей» і адкрыты для добразычлівых людзей.

У новай Беларусі ніхто, пачынаючы з кіраўніка дзяржавы, не зможа, як цяпер, абразіць асобу, зганьбіць гісторыю і святыні народа, беспакарана нанесці шкоду суседу, суайчынніку любой нацыянальнасці і веравызнання, не зможа прынізіць грамадскую мараль. Бо дзяржава будзе прававой.

Новая Беларусь, нейтральная, без'ядзерная, не будзе далучацца да сумніцельных ваенна-палітычных саюзаў, якія падштурхоўваюць нашу Бацькаўшчыну да ўдзелу ў ваенных аперацыях у Таджыкістане, на Каўказе...

*( працяг на стар. 3)*

## Трасцянец і мікрараён Шабаны

Як вядома, Трасцянец — самы вялікі лагер смерці на тэрыторыі былога СССР. Звыш 200 тысяч чалавек загінулі на гэтай зямлі. Амаль даваенны Мінск.

На пяці сесіях Вярхоўнага Савета давялося распавядаць пра гэту трагедыю, заклікаць добраўпарадкаваць Трасцянец і Шабаны, пасадзіць дрэвы. Вечны агонь з абеліскам знаходзіцца каля мікрараёна Шабаны. Але не там гінулі людзі. Лагер знаходзіўся побач з Шабанамі (паміж будынкам АТС, прамзонай Шабаны і мікраёнам).

Апазіцыі, якая складае большасць камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны ўдалося толькі год назад дабіцца Пастаноў Вярхоўнага Савета і Урада аб стварэнні мемарыяльнага комплексу. Распрацаваны праект, згодна з якім у аснове комплекса будзе пасаджана лесапаркавая зона на тэрыторыі цяперашняй пусткі (дзе і быў лагер).

Гэта будуць «лёгкія мікрараёна» месца, дзе людзі не толькі могуць аддаць даніну памяці ахвярам вайны, але і прайсці па алеях і адчуць подых свежага паветра, убачыць дрэвы. Гэта якраз так не хапае перанаселенаму мікрараёну.

Гэта зялёная зона «адсячэ» прамзону Шабаны ад жылых дамоў. Яна стане ўтульным месцам, дзе могуць проста прайсціся маці з дзецьмі, пенсіянеры, жыхары мікрараёна. Палепшыцца не толькі экалогія, але ўвогуле мікрараён стане больш утульны, прыдатны для жыцця. Так памяць пра тых, хто тут загінуў, абернецца клопатам пра жывых.

Курапаты і Трасцянец — два сімвалы двух таталітарных сістэм. Пра Курапаты да Пазняка ніхто не наважваўся гаварыць. Аўтару гэтых радкоў уздымаць трасцянецкі пласт людской трагедыі было, безумоўна, непараўнальна лягчэй. І тым не менш, як бачна, тры гады патрачаны толькі на прыняцце урадавых пастаноў па ўвекавечанню памяці ахвяр былога лагера смерці і стварэнню мемарыяльнай лесапаркавай зоны. Амаль год — на стварэнне канцэпцыі, зацвярджэнне праекта. Пракладваецца дарога, да 9 мая мяркуецца ўстанавіць мемарыяльны камень ва ўрочышчы Благоўшчына побач з Трасцянцом. Упершыню ў Трасцянцы на радаўніцу 2 мая сёлета праваслаўны святар адслужыў малебен на Трасцянецкіх могілках. Справа пайшла.

Па ініцыятыве Гісторыка-мемарыяльнага фонда «Трасцянец», які ўзначальвае якраз аўтар гэтых радкоў, вядзецца работа над дакументальным фільмам, складаецца кніга дакументаў і матэрыялаў пра Трасцянец. Гэту газету прачытаюць і жыхары Малога Трасцянца, магчыма сярод іх захаваліся сведкі трагічных падзей ваеннага часу, дакументы, фотаздымкі, іншыя матэрыялы. У такім выпадку — адгукніцеся! Тэлефоны пазначаны на 4 старонцы выдання.

*Яўген Цумараў,*
*дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі,*
*старшыня Гісторыка-мемарыяльнага фонда «Трасцянец»*

**Артыкул 17. Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова.**

**Рэспубліка Беларусь забяспечвае права свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін.**

## Бойся "незалежных" кандыдатаў!

*(Працяг, пачатак на стар. 1)*

Апазіцыя мае праграму выхаду з крызісу, якая дэталёва распрацавана высокапрафесійнымі спецыялістамі, прайшла аўтарытэтную міжнародную экспертызу. Яе не друкуюць у афіцыйнай прэсе. Бо баяцца альтэрнатывы, баяцца праўды. Дарэчы, некаторыя раздзелы гэтай праграмы можна прачытаць на старонках нашай газеты.

Аднак тым часам з'явіліся «народныя заступнікі», т. зв. «незалежныя» кандыдаты, якія гадамі адседжваліся ў «цёплых» крэслах, былі «пры пасадах і акладах», хто мог, удзельнічалі ў «прыхватызацыі», і чакалі... А цяпер — вось яны перад Вамі: той дырэктар, той выканкамаўскі служака, які раптам сам стаў «генеральным директором», той «независимый юрист» («падкідыш», «вертыкалі«)...

Але давайце не забывацца, што якраз многія з «незалежных» кандыдатаў — гэта малодшыя браты Лукашэнкі. Яны шмат абяцаюць, як калісьці і сам Прэзідэнт, праўда, у меншых маштабах — і дарогі пракласці, і будоўлі «запусціць», і транспартам забяспечыць, і цэны знізіць, ды многе іншае. Але каб выканаць — трэба мець уладу і ўменне. А ўладу ў новым Вярхоўным Савеце можа атрымаць толькі адна з дзвюх сіл, пра якіія гаварылася. Апазіцыя ўжо выпрацавала дзесяткі праектаў пакуль яшчэ не прынятых законаў, і яны, стаўшы дзейснымі актамі, заўтра палепшаць нам жыццё, дапамогуць выбрацца з крызісу.

Калі ж у парламенце большасць складзецца з тых самых «незалежных» — будзе новы віток карупцыі, яшчэ больш стане рэальнай эканамічная катастрофа і звязаны з ёю абвальны спад узроўню жыцця, прадоўжыцца «прыхватызацыя» на ўзроўні цяпер ужо гіганцкіх расійскіх манаполій і іншыя «ягадкі». І гэта непазбежна, бо «галодныя» «незалежныя» разам з партыяй улады зоймуцца перш ўсё тым, што будуць дзяліць месца пад сонцам.

Апазіцыя, моцныя, загартаваныя ў палітычнай барацьбе дэмакратычныя сілы вылучылі здольных, сумленных кандыдатаў. Іх перамога на выбарах гарантуе нашу будучыню, гарантуе развіццё асобы, грамадства і дзяржавы.

*Выбаршчык, які задумаўся над жыццём.*

## Галасуем за новую Беларусь!

*(працяг, пачатак на стар. 1)*

У такой дзяржаве не выбіраюць прэзідэнтам Луку Мудзішчава (літаратурны персанаж вядомы з 19 стагоддзя). У такой дзяржаве парламент — гэта не толькі люстэрка, але і мозг і сэрца грамадства.

Менавіта такую дзяржаву мае жалезную волю адбудаваць блок дэмакратычных партый, калі пераможа на выбарах у Вярхоўны Савет. Не адразу, але няўхільна грамадзяне краіны ўсё больш і больш усведамляюць, што апазіцыйныя сілы — адзіны іх паратунак у барацьбе за выжыванне. Калі ў цяперашнім Вярхоўным Савеце апазіцыя складала каля 10% парламентарыяў, то на мінулагодніх прэзідэнцкіх выбарах апазіцыйныя сілы падтрымалі звыш 25% выбаршчыкаў (прыхільнікі Пазняка і Шушкевіча).

Аднак ураджай, як вядома, імкліва выспявае менавіта ў апошнія дні «волі», адведзеныя раслінам прыродай. І толькі пад уздзеяннем варожых знешніх сіл гэты натуральны працэс можа запаволіцца. У прыродзе гэта звязваецца з дрэнным надвор'ем. У жыцці чалавека і ў грамадскім развіцці ўсё выглядае непараўнальна, больш складаным. І вось, усё цёмнае, пачварнае, гнілое ў хворым грамадстве, у асобе, прыдушанымі страшнай мінуўшчынай і звярынымі інстынктамі, пачынае падтрымлівацца, аберагацца і пашырацца цяперашнімі ўладамі краіны і нахабна лезе на пачэснае месца ў нашым беларускім доме.

Такі вынік памылкі падманутых і — як цяпер бачна — апляваных тых самых 56% прагаласаваўшых за «всенародно избранного». Калі браць за меру адліку імгненне, то порах, згараючы, выконвае адведзеную яму ролю — «выстрэльвае» кулю. Калі браць за меру адліку 5 год, адведзеных Прэзідэнту на самавызначэнне і самааддачу, то стане відавочным, што яго «порах» згарэў даўно — яшчэ ў час прэзідэнцкіх выбараў. Цяпер ад таго гарэння застаўся толькі смуродны пах...

Аднак бяда не ў кіраўніках дзяржавы. Бяда ў многіх з нас, якія, памыліўшыся, не прызналі цалкам сваёй памылкі. Не зразумелі, што 14 мая дае нашай краіне стаць Новай Беларуссю. Як? Учытаемся ў радкі перадвыбарнай эканамічнай платформы БНФ альбо сацыял-дэмакратычнай грамады, змешчаных на старонках гэтай газеты. Там няма адказаў на ўсе набалелыя пытанні. Але там ёсць агонь, святло, ёсць жывое рушэнне да той самай Новай Беларусі.

І ёсць акрэсленае імкненне — весці новую палітыку, пакутліва шукаць ісціну. Дык шукайце яе разам з імі! Прыходзьце 14 мая на выбары і галасуйце за новую Беларусь, за дэмакратычны блок.

*Спадар Яська — не спі — ў шапку.*

## SOS! SOS! SOS! SOS!

У рэдакцыю «МГ» паступіла з дасведчаных крыніц інфармацыя: на урнах для бюлетэняў у час галасавання на выбарах Вярхоўнага Савета 14 мая не будзе выявы Дзяржаўнага герба незалежнай краіны. Упершыню за 70 год! Нешта новае ў гісторыі сусветнага парламентарызму.

Але ці не наўмысна так зроблена? Бо, акрамя выбараў, праводзіцца і прэзідэнцкі рэферэндум, т. л. і па дзяржаўнай сімволіцы. Ад людзей хаваюць звесткі пра затраты ад замены існуючай сімволікі (шыльды, пячаткі, бланкі, пашпарты, грошы, вайсковыя рэквізіты на адзенні і галаўных уборах, сцяг і г. д.). Усё гэта будзе каштаваць дзяржаўнай (нашай з вамі) кішэні больш за трыльён рублёў! Аднак гэтага некаму здалося замала — цяпер ад людзей хаваюць і сам старажытны беларускі герб!

---

У заканадаўства краіны бдуць уведзеныя палажэньні, скіраваныя на дакладнае выкананьне нормаў экалягічнай бясьпекі.

Будзе створана надзейная сыстэма экалягічнага кантролю за станам навакольнага асяродзьдзя і прадуктаў харчаваньня. Па ўсёй тэрыторыі Беларусі будзе праведзены маніторынг на забруджанасьць радыенуклідамі, цяжкімі мэталамі, рэшткавымі пэстыцыдамі і гербіцыдамі, адыходамі хімічнай вытворчасьці. Будуць зьнятыя пошліны на ўвоз у Беларусь экалягічна чыстых прадуктаў.

Праграма мінімізацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы будзе перагледжана. Будуць спынены ўсе непатрэбныя працы па дэзактывацыі тэрыторыяў і вядзеньне ў забруджаных зонах сельскагаспадарчых працаў, якія толькі спрыяюць разносу радыеактыўнага «бруду» і бессэнсоўна марнуюць грашовыя сродкі. Ліквідуюцца ўсе бюракратычныя надбудовы, якія ператварылі нацыянальную бяду ў спосаб асабістай нажывы.

Праблемы, зьвязаныя зь бясьпекай пражываньня людзей, будуць вырашацца ў першачарговым парадку.

### Прыватызацыя індустрыі

Механізм разьдзяржаўленьня і прыватызацыі павінен грунтавацца на наступных зыходных пасылках:

— пры правядзеньні прыватызацыі прыярытэты павінны быць аддадзеныя ня толькі працоўным калектывам, але і адказным інвэстарам, якія змогуць рацыянальна распарадзіцца ўласнасьцю прадпрыемства. Належыць выкарыстоўваць як цэнтралізаваную (праз адпаведныя дзяржаўныя органы прыватызацыі), гэтак і дэцэнтралізаваную (калі самі працоўныя калектывы выбіраюць мэтад правядзеньня прыватызацыі) стратэгіі;

— належыць забараніць выкарыстаньне прыватызацыйных сродкаў для датацыяў, фінансавай падтрымкі нерэнтабэльных прадпрыемстваў;

— адной з крыніцаў рэсурсаў, неабходных для буйных структурных пераўтварэньняў, павінен быць замежны капітал. Прыцягненьне замежнага капіталу павінна быць не выпадковым, а засноўвацца на сацыяльна–палітычнай стабільнасьці дзяржавы і на навукова абгрунтаванай праграме. У якасьці формаў прыцягненьня замежнага капіталу могуць выкарыстоўвацца крэдыты, частковы або поўны продаж акцыяў ужо дзейнага аб'екту, стварэньне сумесных або цалкам замежных прадпрыемстваў;

— у прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў неабходна выкарыстоўваць шырокі арсэнал спосабаў: публічны продаж акцыяў, выкуп прадпрыемства, перадачу ў карыстаньне (арэнда, траст, лізінг і г. д.), падзел ці фрагмэнтацыю прадпрыемства. Выбар спосабу ці формы прыватызацыі залежыць ад аб'екту прыватызацыі і праблемаў, якія пры гэтым вырашаюцца;

— дзеля падвышэньня эфэктыўнасьці і гнуткасьці правядзеньня прыватызацыі належыць дазволіць па жаданьні працоўнага калектыву прыватызацыю любога структурнага падразьдзяленьня прадпрыемства (цэха, участка і пад.);

— прыватызацыя павінна праводзіцца сукупна зь іншымі захадамі; дэманапалізацыяй і разьвіцьцём канкурэнцыі, структурнай перабудовай эканомікі і рэструктурызацыяй прадпрыемстваў, аздараўленьнем фінансава–крэдытнай і падатковай сыстэмы і санацыяй фінансаў прадпрыемстваў. Без сыстэмнага падыходу да прыватызацыі яна можа стаць магутным дэстабілізацыйным фактарам у грамадзка–палітычным жыцьці краіны.

### Стратэгія разьвіцьця паліўна–энэргетычнага комплексу

Паліўна–энэргетычны крызіс выкліканы аднабаковай арыентацыяй на закупку энэрганосьбітаў і катастрафічным падзеньнем здабычы нафты ў Расеі.

Так, паводле падпісаных пагадненьняў, у 1995 г. Расея зможа прадаць Беларусі толькі 10 млн. т нафты, а патрэбы Беларусі з улікам наяўных магутнасьцяў — каля 40 млн. т.

Сёлета прастой абсталяваньня Наваполацкага і Мазырскага нафтаперапрацоўчых заводаў складзе каля 72%. Рашэньне праблемы — у дапаўненьні паставак энэрганосьбітаў з Расіі пастаўкамі зь іншых нафтаздабыўных рэгёнаў сьвету. Распрацаваным і найбольш эфэктыўным зьяўляецца праект Балтыйска–Чарнаморскага нафтавага калектара (БЧНК).

Паэтапная рэалізацыя праекту БЧНК дазволіць Беларусі ўжо праз год атрымаць нафту з тэрміналаў Балтыкі і значна павялічыць загрузку нафтаперапрацоўчага комплексу.

Першы этап рэалізацыі праекту БЧНК (балтыйскі кірунак) патрабуе 300 млн. даляраў. Неабходныя ўкладаньні акупляюцца за два гады. Павелічэньне вытворчасьці аб'ёмаў нафтапрадуктаў дазволіць замяніць у структуры паліваспажываньня энэргетычнай галіны краіны газ на мазуту і замест імпарту пачаць экспарт паліўнамазных матэрыялаў.

Павелічэньне аб'ёму спальваньня мазуты дазволіць краіне зьнізіць выдаткі на вытворчасьць цеплавой і электрычнай энэргіі ня менш чым на 300 млн. даляраў у год, а агульны эканамічны эфэкт ад загрузкі нафтаперапрацоўчага комплексу і хімічнай галіны складзе каля 900 млн. даляраў у год.

У выніку сабекошт электрычнай і цеплавой энэргіі зьнізіцца на 16%, што палепшыць эканамічнае становішча прадпрыемстваў прамысловасьці і сельскай гаспадаркі.

### Зямельная рэформа

Асноўная мэта зямельнай рэформы — забясьпечыць рацыянальнае выкарыстаньне галоўнага нацыянальнага багацьця краіны — зямлі — у інтарэсах усіх грамадзянаў нашай дзяржавы.

Рэформа землекарыстаньня і прыватызацыя зямлі павінны адпавядаць двум патрабаваньням: выключыць сацыяльныя канфлікты і не дапусьціць зьмяншэньня сельскагаспадарчай вытворчасьці. Гэтыя патрабаваньні могуць быць выкананыя пры ўмове паралельнага ўводу новых формаў гаспадараньня, а не пры татальнай замене адных формаў другімі.

Зямельная рэформа павінна праводзіцца на аснове новага зямельнага заканадаўства, якім гарантуецца прыватная ўласнасьць на зямлю і яе гаспадарчае выкарыстаньне. Аднаўленьне інстытуту прыватнай уласнасьці на зямлю неабходна не для рэалізацыі ідэалягічных установак, а для ўпарадкаваньня сыстэмы зямельных дачыненьняў.

Пераўтварэньне дачыненьняў уласнасьці на зямлю павінна праходзіць двума кірункамі. Першы — унутраныя пераўтварэньні калгасаў і саўгасаў, трансфармацыя іх у больш гнуткія арганізацыйныя формы. Цяперашнім калгасам і саўгасам будзе забясьпечана поўная свабода трансфармавацца ў рынкавыя структуры — акцыянэрныя таварыствы, дабраахвотныя аб'яднаньні ўласьнікаў, таварыствы, асацыяцыі, саюзы, таварыствы з абмежаванай адказнасьцю і інш. Саўгасы перад пераўтварэньнем будуць разьдзяржаўленыя зь перадачай маёмасьці ва ўласнасьць працоўных калектываў. У распараджэньні дзяржавы застануцца толькі эксперымэнтальныя базы навуковых установаў, племянныя і элітныя насеньняводчыя гаспадаркі, сортавыпрабавальныя ўчасткі. Дзяржава павінна забясьпечыць юрыдычную, арганізацыйную і мэтадалягічную магчымасьць пераўтварэньняў. Другі кірунак — стварэньне на базе дзяржаўнага рэзэрвовага зямельнага фонду прыватных сялянскіх гаспадарак.

Прыватызацыя зямлі — не самамэта, а сродак падвышэньня эфэктыўнасьці гаспадараньня, гарантыя стварэньня экспартнага патэнцыялу, прадуктаў харчаваньня, галоўная гарантыя любых капіталаўкладаў, а значыць — найпершая ўмова ажыўленьня інвэстыцыйнай дзейнасьці і ўсёй эканомікі.

У выніку прыватызацыі зямлі мясцовая ўлада набудзе ўласныя фінансавыя магчымасьці дзеля ажыцьцяўленьня сацыяльных праграмаў дапамогі непрацаздольным жыхарам сяла, якія цяпер часткова выконваюць калгасы і саўгасы. Гэтыя сродкі дае падатак на зямлю. Калгасы і саўгасы павінны не падмяняць мясцовую ўладу, а займацца толькі гаспадарчай дзейнасьцю і плаціць, як і ўсе землеўладальнікі, эканамічна абгрунтаваны падатак на зямлю.

Рынак зямлі, які будзе функцыянаваць праз сыстэму іпатэчных банкаў і права на заклад зямлі,— галоўная ўмова самарэгуляцыі эканомікі, яе дынамічнасьці.

### Інвэстыцыйная палітыка

Асноўнай задачай інвэстыцыйнай дзейнасьці зьяўляецца забесьпячэньне расшыранага ўзнаўленьня асноўнага і абаротнага капіталу з мэтай задавальненьня патрэбаў грамадзтва і кожнага чалавека на аснове прыцягненьня і ўкладаньня ўсіх відаў маёмасьці і інтэлектуальных каштоўнасьцяў у гаспадарча–камэрцыйныя, навуковыя, культурныя і іншыя прадпрыемствы, праграмы і праекты.

Агульны аб'ём інвэстыцыяў з кожным годам скарачаецца. Калі за два гады (1992—1993) ён скараціўся на 38%, то за адзін 1994 год — на 31,5%. Гэтая тэндэнцыя захоўваецца і ў 1995 г.

Акрамя таго, у структуры ўнутраных інвэстыцыяў доля дзяржаўных капітальных укладаньняў зь пераходам да рынкавай эканомікі будзе непазьбежна скарачацца. Г. зн., неабходна абудзіць прыватныя інвэстыцыі (акцыянэрных і страхавых кампаніяў, камэрцыйных і інвэстыцыйных банкаў, прадпрыемстваў і асобных прадпрымальнікаў), павялічыць колькасьць інвэстыцыйных суб'ектаў.

Галоўнай умовай актывізацыі інвэстыцыйнай дзейнасьці грамадзянаў і юрыдычных асобаў (прадпрыемстваў) зьяўляецца безумоўнае заканадаўчае і практычнае гарантаваньне інвэстарам іхных капіталаўкладаў (уласнасьці) і прыватная ўласнасьць на зямлю.

Неабходна вырашыць праблему стымуляваньня зьберажэньняў, што паспрыяе крэдытаваньню беларускай эканомікі пад нізкі працэнт.

Дзяржава павінна стымуляваць тыя кірункі інвэстыцыйнай дзейнасьці, якія адпавядаюць доўгатэрміновым інтарэсам грамадзтва. Галоўныя з гэтых кірункаў — жыльлёвае будаўніцтва, будаўніцтва і рэканструкцыя інжынэрнай і транспартнай інфраструктуры, інфраструктуры сувязі, будаўніцтва аб'ектаў вытворчасьці, заснаванай на мясцовай сыравіне (будаўнічыя матэрыялы, перапрацоўка сельскагаспадарчай прадукцыі і інш.).

Сваім удзелам у інвэстыцыйным працэсе дзяржава павінна спрыяць хуткаму абарачэньню капіталаў і эфэктыўнаму іх выкарыстаньню.

Прыярытэтам у палітыцы жыльлёвага будаўніцтва павінна стаць стварэньне ўмоваў кожнаму грамадзяніну (сям'і) пабудаваць уласны дом (кватэру, гараж, участак — у адным месцы). Гэта дае станоўчы сацыяльны вынік.

Дзяржаўная палітыка павінна ўлічваць розныя фінансавыя магчымасьці розных катэгорыяў насельніцтва. Таму ў бліжэйшы час нельга адмаўляцца ад будаваньня дзяржаўнага сацыяльнага жыльля для малазабясьпечаных за кошт сродкаў ад рэалізацыі дзяржаўных рэсурсаў (зямлі, нерухомасьці) і падаткаў на іх.

Замежны капітал — гэта ня толькі фінансавыя сродкі, але і сучасныя тэхналёгіі, рабочыя месцы, інтэлектуальны патэнцыял, досьвед кіраваньня. Будуць створаныя некалькі рэжымаў для замежных інвэстыцыяў. Асабліва прывілеяваны рэжым павінны мець прадпрыемствы, якім патрэбныя буйныя капіталаўклады. Патрэбныя наступныя льготы: вызваленьне ад мытных пошлінаў пры ўвозе абсталяваньня і сыравіны, бяспошлінны вываз гатовай прадукцыі, поўнае або частковае вызваленьне ад падатку на прыбытак на пэўны тэрмін, свабода рэпатрыяцыі прыбытку.

Нормы, якія рэгулююць рэжым інвэстыцыяў, павінны ўключацца ў гандлёвыя дагаворы і кантракты; будуць прадугледжаныя спэцыяльныя двухбаковыя пагадненьні аб інвэстыцыях.

Неабходна выкарыстаць перавагі міжнароднага падзелу працы і ўвайсьці ў сусьветны інвэстыцыйны рынак. Для гэтага трэба стварыць умовы, ня горшыя за сусьветныя. Трэба імкнуцца ня толькі да імпарту капіталу, але не забывацца на экспарт, стварыць спрыяльныя ўмовы і для эксплуатацыі рэсурсаў іншых краін.

** Прапануе Грамадзкі (Ценевы) Кабінет міністраў Беларускага Народнага Фронту. Плятформу распрацавалі: А. Станкевіч, У. Тарасаў, І. Нікітчанка, У. Кулажанка, Л. Зданевіч, С. Гусак, Ю. Беленькі, М. Крыжаноўскі, В. Масквіч, С. Папкоў. Кіраўнік Кабінэту міністраў З. Паньзяк, прэм'ер–міністр Кабінэту У. Заблоцкі.*

# ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

**Людзі зямлі беларускай!**

14 мая на рэферэндуме мы павінны будзем выказаць свае адносіны да моўнай палітыкі. У самыя змрочныя часы, у перыяд сталінскай беззаконнасці Вярхоўны Савет БССР ужо ўносіў змены ў Канстытуцыю, зацвердзіўшы ў Беларусі дзяржаўнасць рускай мовы. Спасылаючыся на «требования самих трудящихся», улады змагаліся тады з «врагами народа, которые насильно хотели оторвать белорусскую культуру от русской» («Правда», 27 июля 1938 года). Нешта падобнае нам цяпер прапануюць зрабіць уласнымі рукамі.

Палітыка занядбання беларускай мовы ў апошнія дзесяцігоддзі прывяла да таго, што сфера яе ўжывання звузілася да небяспечных памераў. К канцу 80–х гадоў у гарадах Беларусі не засталося ніводнай беларускай школы, зусім не было беларускамоўнага выкладання ў ВНУ. У 1987 годзе выдавецтва «Полымя» выпусціла беларускамоўнай літаратуры ў 382 разы менш, чым рускамоўнай; выдавецтва «Ураджай» — у 583 разы.

Але ж хіба ў беларускай вёсцы беларусаў жыве ў 583 разы менш, чым рускіх? Хіба ўсе яны выракліся роднай мовы? Не, у 1989 годзе беларускую мову назвалі роднай 80% беларусаў, а таксама 29885 рускіх, 266790 палякаў, 17016 украінцаў, 2388 яўрэяў.

Неабходнасць абараніць родную мову, выратаваць яе прывяла 5 гадоў таму назад да прыняцця Закона аб мовах. Падобныя законы былі зацверджаны ў 1989—1990 гадах ва ўсіх без выключэння рэспубліках Савецкага Саюза.

Падтрымліваючы эканамічныя адносіны з Расіяй, ні Украіна, ні Казахстан, аднак, не прызналі ў сябе афіцыйнага статусу за рускай мовай. У з'яднаным еўрапейскім супольніцтве не ставіцца пытанне аб агульнай мове; наадварот, і французы, і шведы, і галандцы, і іншыя народы вельмі цэняць сваю непаўторнасць. Імкненне захаваць свае родныя мовы ўласціва ўсім народам свету.

А што ж мы, браткі–беларусы? Хто ў нас возьмецца абараніць мову, якая гучыць на нашай зямлі спрадвеку? Няўжо беларуская мова — гэта нешта не наша( А тады чыё?

Усе мы хацелі б жыць, як «ва ўсім цывілізаваным свеце». Але ці здольныя мы — як ва ўсім цывілізаваным свеце — умець пастаяць за сваё? Ці разумеем мы, што першы пункт рэферэндуму вызначае будучыню беларускай, а не рускай мовы? Няўжо ў нас знаходзіцца ў небяспецы руская мова?

Вырашаць шляхам галасавання лёс роднай мовы — амаральна. Гэта тое самае, як абмяркоўваць «праблему», ці трэба любіць і шанаваць сваіх старых і нямоглых бацькоў. Я.ы ж, можа, таксама «неперспектыўныя». Чаму б і іх будучыню не вызначыць пра дапамозе выбарчых бюлетэняў?

Напярэдадні рэферэндуму некалькі разоў было парушана існуючае заканадаўства. У адпаведнасці з 3–м артыкулам Закона аб народным галасаванні пытанне аб мове не можа выносіцца на рэферэндум. 148–ы артыкул Канстытуцыі не дазваляе Вярхоўнаму Савету змяняць яе на працягу апошніх шасці месяцаў сваіх паўнамоцтваў. Заплюшчым на гэта вочы? Але ці не прывядзе ў будучыні наш маўклівы дазвол парушаць законы да новых, яшчэ больш сур'ёзных парушэнняў? Жадаючы рухацца наперад, ці не вернемся мы назад, у 1938–ы год?

Падумаем: каму выгадна правядзенне рэферэндуму? Напэўна, яго ініцыятару — Прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку. Але калі Прэзідэнта сапраўды цікавіць наша думка, то чаму ён не хоча запытацца ў нас, што мы думаем пра выкананне ім сваіх галоўных перадвыбарчых абяцанняў?

**Шаноўныя суайчыннікі!**

Закрэслівайце абодва адказы ў першым пункце бюлетэня па рэферэндуму! Гэтым Вы абароніце беларускую мову і паспрыяеце захаванню згоды і міру ў нашым грамадстве.

*Таварыства беларускай мовы*
*імя Францішка Скарыны*
*25 красавіка 1995 года*

## Як можна угробіць 900 мільярдаў рублёў

*(аб лукашэнкавым рэферэндуме)*

Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка прымусіў Вярхоўны Савет прызначыць рэферэндум па пытаннях аб статусе рускай мовы, аб увядзенні новых герба і сцяга, аб цесным эканамічнам саюзе з Расіяй, а таксама аб магчымасці роспуску прэзідэнтам Вярхоўнага Савета.

Па першаму пытанню — руская мова ў нас фактычна з'яўляецца дзяржаўнай мовай. Па Канстытуцыі руская мова — мова міжна-цыянальных зносін. Па закону аб мовах яна абавязковая пры вывучэнні ў школах. Таму адна з мэт рэферэндума — канчаткова дабіць ненавісную А. Лукашэнку беларускую мову.

Па другому пытанню — старажытны герб Пагоня і бел–чырвона–белы сцяг былі аб'яўлены дзяржаўнымі ўрадам Беларускай Народнай Рэспублікі яшчэ ў 1918 годзе, а не ўведзены гаўляйтэрам Кубы ў гады вайны, як сцвярджаюць некаторыя органы друку. Між іншым, усе былыя рэспублікі СССР, а зараз незалежныя краіны, узаконілі сваю гістарычную сімволіку. Чым жа мы горшыя за іншых? Акрамя таго, адмена існуючай сімволікі і ўвядзенне «новай» бэсэраўскай будзе каштаваць прыблізна 900 млрд рублёў. За гэтыя сродкі можна падняць памер пенсіі кожнаму пенсіянеру на 38 тысяч рублёў на працягу цэлага года. Вось так збіраецца змарнаваць дзяржаўныя грошы «всенародно избранный» прэзідэнт.

Па трэцяму пытанню — а хто ж супраць цесных эканамічных адносін з той жа Расіяй, а таксама з Украінай, Польшай і другімі краінамі?

Па чацвертаму пытанню — магчымасць распускаць Вярхоўны Савет дасць Лукашэнку дыктатарскія паўнамоцтвы і тады ўсім нам прыдзецца ўспомніць 1937 год.

Навошта ж А. Лукашэнка вынес гэтыя пытанні на рэферэндум? Чаму ён не гаворыць пра барацьбу з карупцыяй, пра «запуск» заводаў к 1 студзеня 1995 года, пра зніжэнне цэнаў і другія сваі абяцанкі перад сваім абраннем? Няўжо тады, калі мы зробім рускую мову дзяржаўнай, адменім цяперашні герб і сцяг, дамо А. Лукашэнку «царскія» паўнамоцтвы, станем жыць лепш? Не, не станем. Але калі хоць на адно пытанне рэферэндума адкажам «так», то Лукашэнка будзе трактаваць гэта як усенародную падтрымку сваёй палітыкі.

Таму заклікаем нашых грамадзян закрэсліваць бюлетэні па рэферэндуму і такімі кідаць іх у скрынкі для галасавання.




### Эскіз дзяржаўнага сьцяга

Прапанова развіцця ідэі прэзыдэнта па удасканаленьні дзяржаўнай сымболікі




*Малюнкі друкуюцца паводле матэрыялаў газэты "Свабода"*

## Народны гумар. Рознае

*У прызначанага Лукашэнкам кіраўніка раённага выканаўчага камітэта (славутая «прэзідэнцкая вертыкаль») пытаюцца: як будаваць мост — удоўж альбо ўпоперак ракі? Той, падумаўшы, адказвае: пабудуем вертыкальна, а потым пакладзем, як скажа Прэзідэнт.*

***

*Заходзіць да дырэктара наведвальнік: Вам трэба вядучы інжынер? Вось дыплом, іншыя дакументы: я кандыдат навук, маю пасведчанні аб навуковых адкрыццях...*
*— Не падыйдзе... А вы, часам, адкуль?*
*— Я са Шклова, Магілёўскай вобласці.*
*— А-а... Так бы і казалі...*

***

*Пыт.: Які прадмет можа адначасова знаходзіцца ў вертыкальным і ў гарызантальным становішчы?*

*Адказ: Кіраўнік выканкама, прызначаны кіраўніком дзяржавы. «Вертыкальным» па пасадзе і гарызантальным у час сустрэч з Прэзідэнтам.*

***

*У рэдакцыю «МГ» пазваніў ананім:*
*14 мая будынак былога ЦК КПБ, новая рэзідэнцыя Прэзідэнта Беларусі, будзе замініраваны Ведзьмаком Лысагорскім, які гэтым адчайным крокам хоча даказаць, што Прэзідэнт — не Лука Мудзішчаў. Вядома, што аўтары сваіх персанажаў ніколі не забіваюць, іначай бы ім не было чаго есці.*

***

*Нехта падкінуў у рэдакцыю «МГ» запіску: «Чем выше обезьяна падымается вверх по дереву — тем лучше виден ее зад». Просьба да яе аўтара патлумачыць сэнс гэтага мудрагелістага выслоўя.*

***

*АБ'ЯВА. Карове Мілцы патрабуецца бык. Праезд да Шклова і назад быку — бясплатны, гаспадару — за свой кошт.*

***

*ПАВЕДАМЛЕННЕ: Кандыдаты ў дэпутаты ад дэмакратычнага блоку будуць плаціць за карыстанне тэлефонамі ў дзесяцікратным памеры ад тарыфу. Гэта звязана з дадатковымі затратамі ў сувязі з праслухоўваннем іх тэлефонаў.*

***

*Заходзяць у рэдакцыю «МГ» і з заканадаўчымі ініцыятывамі. Напрыклад, прапануюць увесці падатак на транзіт на пералёт птушак (якраз вясна!). Бо, вядома ж, Расія не пацерпіць такога здзеку з яе, а жывёла ці птушка — яна і ёсць жывёла. Наш Прэзідэнт іх не баіцца.*







*Палітычна-грамадзкая газэта "Менская грамада"*
**Заснавальнікі:**
Асацыяцыя беларускіх выданьняў ТБМ імя Фр. Скарыны,
Віталь Скалабан, Алесь Траяноўскі, Яўген Цумараў і Уладзімір Ягоўдзік
**Выдавецкая рада**

**Адрас рэдакцыі і выдаўца:**
**220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13**
**тэл. і факс 33-13-52**

Нумар падрыхтаваў Яўген ЦУМАРАЎ
Наклад тыс. паасобнікаў 10 000+2-й з-д.7000
Друкарня "ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА"
Падпісана да друку 4.5.1995 г.
Заказ № 2813.